

ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ

# *Дзень вечаровы*

**ЛІРЫКА**



*Люблю,*
*калі сыдуць марозы:*
*Бясконцы раздольны прастор —*
*Зялёная радасць бярозак*
*І сіняя радасць азёр.*
*Я сінюю радасць*
*вітаю,*
*Гукаю зялёную ў сны...*
*І словы з душы вылятаюць,*
*Як ластаўкі з гнёздаў вясны.*

# АБНАДЗЕЕНЫЯ ДНІ

---

*

Яшчэ мяне зусім няма
Ні ў шуме траў,
                    ні ў лісцях юных,
Ды ўжо іскрысты снег зіма
Заткала мне на падарунак.

Яшчэ няма мяне.
                    Але
Чаканне ёсць і ёсць трывога.
Есць хлеб, і песня на сяле,
І ў свет шырокая дарога.

Яшчэ няма мяне.
                    Аднак
У залатым рознагалоссі,
Нібы узрушаны мастак,
Мой першы след
                    малюе восень.

*

З зялёнага Палесся,
З празрыстае ракі
Хадзем са мною, песня,
Праз шумныя вякі.

І я, як ты, балесны
Парыў ў сабе нясу.
Ступай са мною, песня,
На камень і касу.

Якім балючым сказам
Маўчаць паданні дрэў?
Са мною, песня, разам
Пакутуй і мудрэй.

За покрывам туману,
За сіверам завей,
Калі ўпаду, не ўстану,—
Ідзі адна далей!

*

Ёсць такі удумак вечаровы —
Пасля тлуму,
і грымот,
і мітусні,—
Калі словы заціхаюць
І дубровы
Выступаюць у зялёнай цішыні.
У жыцці такі удумак вечаровы —
Міг пакаяння
І міг, які баліць
За учынкі і за сказаныя словы,
Што не вырваць,
не забыць
і не спаліць.
Ёсць такі удумак вечаровы,
Дзе забыты і нягоды, і радня...
І сярэбраныя чуюцца падковы
Абнадзеенага
заўтрашняга
дня.

## *Бацькаўшчыне*

Радзімы вецер!
Ён з усіх вятроў
Мне як натхненне,
Як шчаслівы подых.
Ёсць доўгі шлях,
Дзе мы,
Як параходы,
Вяртаемся
Да родных берагоў.

Ўдалечыні
Прыйшлося столькі жыць
І слаць сябрам
Паклоны у канверце...
Ёсць міг такі,
Калі не страх памерці,
А страх —
Цябе сабой не засланіць.

*

Сані, сані...
Даль за палазамі.
Добрае, спакойнае святло.
Сыпле снегам,
Дыша маразамі
Роднае палескае сяло.

Вось рака любімая, і дом,
І дубы ў задуме ацішэлай.
Цягне з клунь травою
заімшэлай,
Сырадоем — цёплым малаком.

Кажа маці: «Сёння дзеці — госці.
Нездарма мясцовы сельсавет
Так баіцца выпісак.
Хоць злосці
Ўжо нажыў на цэлы божы свет...»

Слухаю...
Я тут зусім малая.
Думаю: што будзе, што было?..
Пахне кмінам.
Зорамі палае
Ціхае палескае сяло.



## «За туманам нічога не відна...»

З народнай песні

Яшчэ душы маёй раздольна,
Нібы дарозе палявой.
Туманы белыя павольна
Над галавой плывуць маёй.
З якіх лугоў,
З якіх палянаў
Мне назбіраць для слоў настой?
Як за падманам,
За туманам
Іду павольна над ракой.
І растрывожана, і дзіўна
Так пачынаецца мой шлях...
Хто я ў лясах тваіх,
Радзіма?
Радзіма,
Хто я у палях?
І я гада́м неразгаданым,
Нібы сябрам, махну рукой...
Ах, што там,
Што там за туманам —
Дарога? Бездараж? Спакой?..



Колькі па свеце схадзілі,
Ператапталі бяды,
Толькі дыханне Радзімы
Кліча здалёку заўжды.

Лепшая ж песня ці спета?
Ў красках гарыць сенажаць.
Вось і чырвонае лета —
Будзем яго святкаваць!

Вось яны: пушча і поле
Ў грозных паданнях сівых.
Тут не гублялі ніколі
Коннікі коней сваіх.

Край мой, загадкава-сіні,
Сіняя стынь на траве...
...Яснымі вочкамі сына
Ў свет аблачынка плыве.



Граніца
          Восень.
                    Галасы
Вандроўных птушак у палёце,
І ціхі сум у пазалоце,
І смага ў кропельцы расы.

Шчабечуць птушкі ў падарожжы,
А ў падарожжы — шлях, як ніць.
І сэрца гулка і трывожна
Радзімым водарам п'яніць.

Цяпер,
          калі са мной зямля —
Як першародная аснова,
Ужо лаўлю я не здаля
Запеўку,
          водгалас
                    і слова.
Цяпер,
          калі са мной зямля —
Мае палі, мае дубровы,

Я свята веру́ю, што й шлях,
Абраны мной,
беспамылковы.

Звініць у кропельцы расы
Душа на самай весняй ноце!
...Прысняцца птушак галасы,
Вандроўных птушак у палёце.

## *Чайка над залівам*

А той заліў — увесь спакой..
Сутоіўся ён, зыбкі...
Жывуць сваёю талакой
І рыбакі, і рыбкі...

Ды голас чуецца часцей:
Такая вось няўдача —
Згубіла чаіца дзяцей
І над залівам плача.

А хвалі пеняцца,
                    і крыл
Ужо крануўся вечар.
І б'ецца несціханы крык
Аб кацярок сустрэчны.

Ні ў чым табе не пасабіць,
Мы тут праездам, чая...
Але вяртаецца, шчыміць
Твой крык ва мне начамі.

Я і сама паміж вятроў
Уся — палёт суровы,
Калі шукаю, як сяброў,
Загубленыя словы.



Яшчэ зазімак і не сніўся,
Хоць ліст азолены спадаў.
І па зажураных садах
Барвова вецер мітусіўся.

Чакала ў цішыні дарога
У край, дзе ранак залачаў...
Там фарбы жоўтыя Ван-Гога
Палалі ў сонца на плячах.



Калі не мне вясну пачуць,
Калі не мне ісці па травах,—
Сябры мае, што злева, справа,
Замоўкнуць песні не дадуць.

У горы з сонцам напалам
І ў трудных пошуках, у быце,
Калі не мне — маім сябрам
Глыбей у сэрца зазірніце!



А мне у мілай старане —
Бліжэй да сонца і прыроды...
Там дзень праявіцца ў акне
Густым малінавым усходам.

Дыхне сцюдзёна ад ракі
Травой і рыбнаю лускою,
І заблішчаць чарнавікі
Слязой ці першаю расою.

...Вясна. І заўтра быць сяўбе.
На сонцы сушацца сарочкі...
Ды ці не ад саміх сябе
Мы часта бегаем упрочкі?

Ўдыхаем цвет чужых палян,
Пакуль сваё не возьме проза,
Пакуль спаўзе, як і туман,
Адступіць шэранькая поза.



Я сёння святкую сваю перамогу
Над першай памылкай,
бы чорнаю здрадай.
Без памяці
Ветру вясноваму рада,
Што будзіць
Далёкую ў сэрцы дарогу.
Яшчэ толькі раніца
Мною пражыта.
Наперадзе поўдзень
і вечар салодкі...
Упалі загоны зялёнай паводкай
На чуйныя грудзі
Зямлі старажытнай.
І фарбы змяшаліся ўжо невыразна
На шэра-малінавым
полі змяркання.
Зайшлася надоўга над возерам каня
Удовінай песняй,
Глухой, безадказнай...
Ці бачу,
Ці чую,
Ці, можа, мне сніцца
Дажыннае свята

І ўсмешка матулі?
І новыя спевы душу захліснулі:
Я роднаму
краю
іду
пакланіцца.



Ідзём шляхамі рознымі,
А еднасці не скрыць.
Гарыць зара у роздыме
Птушыных лёгкіх крыл.

І даль, што з летуценнямі
Адносіць годы прэч,
Заценена адценнямі
Расстанняў і сустрэч.

Там сінь, што кветкі лубіну
Па высмяглай зямлі.
І ўсё, што не далюблена,
Ці збудзецца калі?



Назад,
Назад вяртае ноч мяне,
Вяртае ў час,
Вяртае без прынукі,
Дзе ў цішыні
Перапляліся рукі,
Нібы галлё густое па вясне.
І я іду,
Бягу па той зямлі,
Па летах тых,
Што толькі напалову
Забылі нашу шчырую размову
І багуном,
І цёрнам параслі...
Па тых вятрах лячу,
Што праляцелі,
Па тых барах,
Якіх даўно няма,
Па памяці, якой была сама
У час журбы
І думных летуценняў...
Ды ўжо прашу у дня,
Што наступае,
Ахоўнага і яснага крыла,

на краі

Дзе ў глыбіні палескага сяла
Мяне яшчэ камусьці не хапае...

Хай пралятае ноч, хай пралятае:
Я знаю сувязь болю і святла!

з мроку

## *Узор*

Узор мой вытчацца даўгім
На кроснах цішы й неспакою —
Паміж зялёнаю вясною
І лістападам залатым.

Сатку узор я першы свой
І з верасоў, і з медуніцы...
І раскатаю ўвесь сувой
Да роднай вёскі Велясніцы.

Узор другі сатку калі
З густых ільноў, з лістоў дубовых,
Я пасцялю па ўсёй зямлі,
Што волю мне дала і мову.

Як трэці вытку я, тады
І у журбе, і ў весялосці
Няхай па ім лятуць гады
Маёй адвечнай маладосці.



Туга напалову забыта.
Я цешуся сонцам і днём...
Пакінем высокае жыта,
Высокую гору мінём.

Абыдзем вячыстую кручу.
(Так лепей — па гладкай шашы...)
Але ці нагам не балюча?
Але ці лягчэй на душы?

Напэўна, спрабуем дарэмна
З вышынямі сэрца разняць:
На нашы высокія дрэвы
Высокія зоры глядзяць...

І тут, у зялёнай дуброве,
Дзе кожная крона — радня,
Скажы мне высокае слова
Ля мудрасці новага дня.



Пагас, патух мой ясны дзень,
І росы выпалі на травы.
І пахне восенню гаркавай...
Прыйдзі, адзіная з надзей!

Прыйдзі з журбою і з віной,
Прыйдзі, як лепшы сон на Яна...
Пакуль гадоў маіх паляны
Цвітуць валошкай палявой.

Прыйдзі, падзелім напалам
Той ручаёк, які не высах,
Пакуль душа падобна высям,
А высі — светлым журавам...



«Заві... Ужо цяпер не важна —
Адчай,
трывога
ці бяда!..»
Заву!
І мне ў адказ працяжна
Сакоча весняя вада.
Залётным воблачкам пушыстым
Плыве кудысьці чуйны сон.
Я знаю:
Ціха і ўрачыста —
У глыбіні густых лясоў.
Вясна! Вясна!
Усё ёй трэба,
Няўрымсиай, ясиай, маладой:
Дажджамі вымытае неба,
Вясёлых дрэў зялёны строй.
І мучаць вечныя пытанні,
І забіраюць у палон...
Усяму,
што збудзецца,—
вітанне!
Збылося што —
таму паклон!



За далячынню бору,
За галасамі жанок —
Светлая музыка мора,
Жоўты пяшчотны пясок.

Тут, на пяску, заначую.
Але трывожуся зноў:
Можа, я проста не ўчую
Ласку марскіх берагоў?

Тут, ля прыбою, зыначу
Думкі. Але і тады —
Можа, я проста не ўбачу
Гэтага сонца й вады?

І не адчую горыч
У салёнай марской вадзе...
Можа, прыходзіў учора
Лепшы мой заўтрашні дзень?..

Светлая музыка мора...
Жоўты пяшчотны пясок...
За далячынямі,
борам
Чуецца песня жанок...



Жанчына мыла і маўчала,
Да броў ускідвала руку.
Сваімі яснымі вачамі
Глядзела неба у раку.

Жанчына штосьці малявала
З той, незабыўнай даўніны.
І цішыня над ёй стаяла,
Як першы раз пасля вайны.

Жанчына чуйна ўспаміпала
На схіле жнівеньскага дня...
Як вышыванка, расцвітала
Над удавою вышыня.

А заўтра рана уставаць...
А заўтра зноў чаканне пошты...
Яна не ведала, навошта
Кашулю брала паласкаць.



Я думала:
прыйду ў зялёны сад —
Яшчэ над садам цішыня і поўня.
І я адчай другім жыццём запоўню,
Пакуль на дол не выпала раса...

Я думала:
ў зялёны сад прыйду,
І з дрэвамі перарасту нягоды,
І павучуся мудрасці ў прыроды,
А дрэвы заглядзеліся ў ваду.

Яснее незваротны далягляд,
І набягаюць,
Нібы хвалі,
Словы...
Прыйшла у сад,
які увесь барвовы!..

А думала: «Прыйду ў зялёны сад...»



Апусціць сон павекі,
А сну не прычакаць.
Мы сталі, быццам рэкі,
Сябе пераплываць.

Скажы, яшчэ не цесна
У берагах?..
А ўсё ж
Патрэбен новай песні
І крыгалом, і дождж.

Наскрозь праніжа токам
Сустрэча, як калісь...
Запозненай паштоўкай
Зляціць апошні ліст.

Што ў шкадаванні толку?
Відаць, адна бяда.
Але скажы, наколькі
Мінулага шкада?..

Мялеюць з часам рэкі,
Цішэе іх прыбой,
Ды ў чымсьці ўсё ж навекі
Мы юныя з табой.



Асіліць мушу перашкоды.
Ды і ў наступныя з гадоў
Аберагай мяне, прырода,
Ад позы лішняе і слоў.

І ў час, калі свайму народу
Пішу праўдзівей і прасцей,—
Падсцерагай мяне, прырода,
На кожнай новае вярсце.

Прашу: трымай мяне натхнёна
Да тых часоў, пакуль сама
Не стану памяццю зялёнай
Ля ясяльдзянскага сяла.

## *Навагоднія паштоўкі*

Якім ён будзе,
　　　　　　Новы год?
Са шчасця,
З болю
Ці з прыгод?
Якім ён будзе,
　　　　　　новы час,
Для Вас?
Якім?..
А покуль надпішу
Паштоўкі,
　　　　　што даслаць
　　　　　　　　спяшу
І тым,
　　　каго я так любіла,
І тым,
　　　каго ўжо забыла,
І тым,
　　　каго яшчэ заву...
І тым,
　　　каму на боль ці міласць
Я, непазбежная, жыву.



Я цішыню хачу адкрыць.
Яна, як спелы поўдзень лета,
Святлом і ласкаю сагрэта...
Такую б цішыню адкрыць!

Я цішыню хачу узвіць
З высокіх дрэў і з траў надрэчных,
З лагоднай майскае сінечы
Я цішыню хачу ўзрасціць.

Знайсці б яе!
Ды дзень пры дні
Ізноў трывожыцца я мушу:
Не адшукаць мне цішыні,
Бо я сама яе парушу.



Мінаюць летуценняў лёгкіх дні.
Наперадзе няясная трывога,
А за спіной ужо няма нічога,
Акром гадоў і мудрай цішыні.

Хоць і не разам, сёння ж мы — адны.
І я сказаць павінна вельмі многа.
Не адыходзь!
Калі мінаюць дні —
Кароткаю становіцца дарога.

Не адыходзь!
Яшчэ твая са мной
Адна ў жыцці няскладзеная песня.
...Мне першы раз шкада,
што за спіной
Канчаецца зялёнае прадвесне.

## *Мае азёры*

Надыхаўшыся водарам травы,
Лугі схадзіўшы так,
Нібыта горы,
Начамі засынала я.
А вы
Усё не спалі, вечныя азёры.

І ў час, як затапляла паплавы,
А ў вышыні
Трубіў прадвесне жораў,
За ўсё была спакойнаю.
А вы
Аб чым шумелі, вечныя азёры?

...Затым над вамі высахла трава,
Раўлі над вамі гулкія маторы...
Начамі прачынаюся.
А вам,
Што сніцца вам,
прымоўклыя азёры?..

*

Праз пушчы і паляны,
Праз купіны й карчы —
Нікім не асядланы,
Імчы, мой конь, імчы!

Травою непрымятай
Ляці ў мой новы дзень.
Цябе любіў, як брата,
Мой дзіваваты дзед.

Таму, відаць, і пугу
Ён не вазіў з сабой,
Бо давяраў, як другу,
Табе свой сум і боль.

І на вятры гулліва
Гадам наперакор
Твая шуміць мне грыва,
Як старажытны бор.

Песняры,
Ты мой, мяне
мой, хоць не
зацугляюць...

*

Зіма.
Снягі.
Мяцелі.
Вясна.
Сады.
Ручэй.

І фарбы ўсё ярчэй,
Што восенню згарэлі.
Якой зімы замовы,
Якой вясны прывет,
Якія гукі й словы
Так просяцца на свет?..



Хаця смяецца лоцман,
Што ураган — не пан,
Далёкі ад эмоцый
Лядовы акіян.

Тут больш, відаць, навукі
І меней — хараства.
Ды перш, чым руль у рукі —
Любоў да рамяства.

Сплываюць зімы, вёсны,
Ды зноў — зіма, вясна...
Змяняюцца рамёствы,
Любоў да іх — адна.

І ў дзікім урагане,
І ў стане небыцця,
Парыў, нібы дыханне,
Патрэбен для жыцця.

Гляджу, як лёгка лоцман
Штурмуе шлях любы.
...Не бойцеся эмоцый —
А бойцеся згубіць!

## Жывы касцёр

Ці бачылі, ужо заходзіць сонца
І, як касцёр, на беразе гарыць?..
...Гарыць касцёр у Чылі — і да сёння.
Яго агонь нічым не затушыць.
Гарыць касцёр, трывожны і гарачы,
Палае ўдзень, палае уначы...
Баяцца кніг Нярудавых,
                              а значыць —
Баяцца яснай праўды палачы!
Гарыць касцёр,
                    а бачыцца з трыбуны
Паэт Пабло, яго жывы пагляд!
Вось так калісь гарэў Джардана Бруна.
А праўда ўсё ж вярталася назад!
Гарыць касцёр...
                    А дым — густой завесай,
Нібы гарыць вялікі весні сад...
Вось так калісь гарэлі Брэхт і Зэгерс,
А кніжкі ўсё ж вярталіся назад
І розуму, і праўдзе нас вучылі,
І вернасці радзімай старане.
...Гарыць касцёр дзесь у далёкім Чылі,
А іскры далятаюць да мяне!

# АДРАСЫ ПРЫЗНАННЯ

## *Песня Віктара Хара*

1

Дзень толькі пачаўся
у ласцы, у марах...
А хмары плывуць і, нібы галавешкі,
дымяць.
Ды чую:
хвалююцца струны гітары
І пальцы,
кранаючы струны,
звіняць.
Дзень толькі пачаўся.
А ў небе —
згушчаюцца хмары,
Адно за адною ўзняліся,
як чорная рацць.
Ды чую:
заходзяцца струны гітары,

А пальцы,
кранаючы струны,
баляць:

«...А ён раным-рана
Пайшоў к партызанам.
Пайшоў к партызанам...
Ды кулю варожую
Стрэў барацьбіт...
І ў дзень яго смерці
З тых пор раніцою
Гудкі завадскія
Рыдаюць наўзрыд» [1].



...Пяць пальцаў не баляць —
яны ляжаць
Асобна...

За горла павешана гітара,
Як асоба.
І побач з ёй —
яе ўладар —
Пясняр бязрукі...
Нібы удар,
цяжкі удар —
Нясуцца гукі.

---

[1] «Аманда і Мануэль». Словы і музыка Віктара Хара.

Не можа песня,
што кліча ў бой
Памерці ў горы.
На мове праўды
я разам з ёй
Спяваю ў хоры.

*

Ад ціхае самоты —
Да светлае тугі.
І растаюць сумёты,
Паўнеюць берагі...

Жаданая выснова
У вочы глянуць дню —
І ў сэрцы дастаткова
І болю, і агню...

# *Рубаі*

Садралі белую кару
З бярозкі юнай не ў пару.
Здаецца мне, што не бяроста,
А я у полымі гару.



Ў сябе, бы ў студню зазірні.
Дай адстаяцца чысціні.
Тады, мастак, і я з табою
Тваёй паверу вышыні.



Спявала песню мне Гульсхор
Пра сіняву і веліч гор.
Ды мне чамусьці ўспамінаўся
Мой ціхі гай, мой цёмны бор.



На шчасце даў мне Файзуло
Залётнай ластаўкі крыло.
Ці не яно часцей вяртае
Мяне у роднае сяло?



Зялёны край. Знаёмы кут.
Мне б назаўжды застацца тут,
Каб не было на свеце іншых
Дарог, шуканняў і пакут.



Хітрэц, нашто мне твой бутон?
Ханжа, нашто мне твой паклон?
Але прыму я ад кахання
Усё — і ружу, і праклён.

*

Там —
У мяцельнай
Белай крутаверці,
Ці не прапаў
Мой голас у трысці?
Ці мо згубіўся ён
У тым канверце,
Што ўзяўся
белы голуб
данясці?..

## *Славацкі снег*

*Памяці Змітрака Астапенкі*

Чарнела горная дарога,
А горы — неба не відаць...
Яшчэ не ведаў снег нічога,
Калі збіраўся выпадаць.

Даўно пагоня і трывога
Цясней збіраліся вакол.
Яшчэ не бачыў снег нічога,
Калі спакойна лёг на дол...

А на душы задума спела
І пракладала з ночы след.
Ды ўжо на белы снег нясмела
Хіснуўся ранены паэт.



*Памяці Міколы Сурначова*

Ён быў падкошаны, як колас,
І ўжо аддадзены агню,
Скрозь стогн гармат ірваўся голас:
«Хачу паслухаць цішыню!»

«Хачу паслухаць цішыню!» —
Удаль імчаўся голас звонкі
І падаў глуха, як сасонка,
Аддаўшы птушкам вышыню.

І без жаданага прывалу,
І без байца ляцець каню...
Ды рэха голасна гукала:
«Хачу паслухаць цішыню-ю-у!»

«Хачу паслухаць цішыню»,—
Шапталі высмяглыя травы...
І дым ляцеў, як боль, гаркавы
Насустрач стомленаму дню.

## *Салаўі*

*Памяці Лёні Якубовіча*

Не ведала, не ведала, калі...
А думала
Зялёным тым прадвеснем:
Калі мае замоўкнуць салаўі,
То за тваімі —
Столькі многа песень!
Але што можа стацца на зямлі
Такою вось
Высокаю парою:
Спяваюць,
Не змаўкаюць салаўі
Над памяццю,
Над песняю тваёю.

## *Памяці Ёзаса Янішчыца*

*Кожнаму чацвёртаму беларусу, які загінуў у гады Вялікай Айчыннай вайны*

Стылі росы гарачыя...
Там, далёка,— вайна...
Мы ніколі не ўбачымся,
Можа, нават, і ў снах.

Што пра вас мне вядома?
Воран чорны ў палях,
Што далёка ад дому.
Ваш — развеяны прах.

Што на брустверы цвёрдым
Ваша цепліцца кроў...
Што Вы той жа Чацвёрты,
Хто да нас не прыйшоў.

Мне як памяць адзіная
Ад журботных удоў —
Ваша прозвішча дзіўнае
З латышскіх стралкоў.

Я у полымі вогнішчаў
Чую часу біццё...
Расстралянаму прозвішчу
Абяцаю жыццё.

## *Другу*

Прымі святло,
Што льецца з-пад пяра
І вырастае ў сонца пад рукамі...
У нас цяпер —
Асенняя пара
І лес наскрозь прапах
Баравікамі.

І я начамі доўгімі не сплю,
Як чалавек,
Навек адданы саду.
А ўсё таму,
Што родам з лістападу —
Я восень задуменную люблю.

То з выраем
Кружляю ў паднябессі,
То, нібы ліст,
Злятаю на траву.
І думаю:
Як-небудзь дажыву
Да слоў тваіх,
Як да гукальнай песні.

## *Маэстра*

*М. І. Забэйдзе-Суміцкаму*

Я знаю: волю гартавалі
І не цярпелі горкіх слёз...
А ноччу думалі, не спалі,
О, не пра свой,—
пра песні лёс!

Ды ці ў жыцці не наракалі,
Не сумавалі Вы,
калі
Не пакахаўшы, адкахалі
І толькі песняю жылі?!

І што Вы там ні гаварыце —
Я знаю, бачу па вачах,
Як васількі ў далёкім жыце
Нязгасна сяяцца па начах...

Але навошта час вяртаць
Як напамін. Ды й недарэчы
Распытваць мне.
Вы рады так
Гамонцы, вершам і сустрэчы.

І што пытацца пра жыццё,
Пра звон прызоў,
Пра лаўры-стужкі,
Калі Вы ў неба гледзіцё,
Што здалёк
вяртае птушак.

## *У калыханку сыну*

Свет мой — голенькі ды босы,
Мой бялюткі бацянок,
Засынаеш, як дарослы,—
Пад галоўку кулачок.

Спі... Зырчэйшая за лотаць
Узышла зара ў акне.
Хто нас можа запалохаць,
Калі ты ўсміхнуўся мне?

І сама я на паўслове
Заціхаю. Ноч... Спакой...
Спі, твой ранačак ружовы
І блакітны вечар твой.

Спі, мой сыне, спі, мой болю,
Спі, крыло майго жыцця...
Я й сама цяпер з табою,
Як вясёлае дзіця.



У засені зялёных шат
Такая прахалода!
Сюды вяртаецца душа
Скрозь ветравыя годы.
Наіўна —
                волю даць рукам
На нейкіх тры нядзелькі!
Стары ўпікне: «Хоць на аркан
Бяры вас сёння, дзеўкі!
Паразышліся хто куды,
Кур'ёзна і употай.
А больш за ўсё у гарады,
Да гарадской работы.
А хіба ж блага, скажам, тут...»
Дзянёк такі каляны!
Зялёны лёс мой — родны кут,
Мой гарадок драўляны!
Твой бор мяне засцеражэ,
Твой гай мне песняй стане.
...А мы з табою ці бліжэй,
Ці лепей у расстанні?..



У нашым лесе спеўна і мурожна
І голаў хмеліць так,
што не заснуць.
Не аддаляй любоўю насцярожлівай
Маю
зеленавокую
вясну.
Ў маёй глушы і звер —
уся паслушнасць.
Уся празрыстасць — тоненькі ручэй.
Ніхто
ніколі
тут
да раўнадушша
Не апускаў ні сэрца,
ні вачэй.
І мо таму
так дружна кронай кожнай
Усё цясней збліжаюць дрэвы нас.
...Чакаю
і заву цябе трывожна,
Як быццам я кахаю першы раз.



Ідзі спакойна па зямлі
І, маладым, не бойся смерці.
Хто раз'яднае нас,
калі
Прасвечаны любоўю сэрцы?

Нас прымуць горы ці палі?!
Згарыць зара за небакраем.
Ды хто разлучыць нас,
калі
Мы самі
вечны круг
ствараем.



Адыдуць, як сон, нагаворы
На поле, на лес-сухавей...
Гучней пазаві,
                    чым учора,
Ўзыдзі,
          чым учора,
                    святлей.

Пакружыцца стомлена воран,
Замоўкне апошні крумкач...
Засмейся званчэй,
                    чым учора,
Мацней, чым учора, паплач!

Я выйду зялёным прадвеснем
На першую ўранні расу
І ціхую, новую песню
Да сонца, да зор панясу.

Няхай яшчэ лётае воран,
Няхай яшчэ кружыцца век...
Кахай мяне так,
                    як учора:
Высока.
Аддана.
Навек!



Як проста ўсё,
Як хараша было!
Між намі лета буйнае цвіло.
Былі лугі і звонкія ільны...
Ні роспачы,
Ні болю,
Ні віны...
Як добра ўсё,
Як добра ўсё было!
Няўжо так хутка лета адцвіло?



Ізноў буяе восень,
ізноў гудуць бары.
Ізноў дажджы прыходзяць,
як даўнія сябры.
І стукаюцца ў вокны,
І голасна завуць.
(Відаць, у гэтай хаце
мне сёння не заснуць!)
Перабіраю стрэчы...
Заглядваю ў акно...
Алі нікога штосьці
ля хаты не відно.
Гуляе толькі восень
па дрогкаму мастку...
І голас твой падобны
апаламу лістку.



Калі агонь невыпадкова
Апаліць вольнае крыло,
Калі
Душа
Шукае
Слова,
А слова ў песню перайшло,
Калі смяюся я і плачу
Вячэрняй ціхаю парой,—
Скажы,
Скажы мне:
Што я значу
У душы разгубленай тваёй?..

## *Цётка Воля*

І я, напэўна, не уседжу:
Займуся садам і раллёй,
Калі на нейкі час суседжу
З аціхлай хатаю тваёй.

Ах, цётка Воля!
На ўспацелым
Ілбе
        дзве хвалі сівізны...
Раслі, гулі ды паляцелі
Па свету беламу сыны!
Калі, ў які далёкі вырай
Твая зляцела маладосць?..

Ты кажаш:
— Сын жыве ў Сібіры,
Жанаты... дом...
                        і дзеткі ёсць.
Гляджу, а твар не праясніўся,
Маршчынкі зноў на лоб бягуць:
— Другі таксама ажаніўся...
Дзесь за граніцаю жывуць...

Ах, цётка Воля!
Цётка Воля

Слязу змахнула рукавом:
Прасіла я... але і Коля
Пайшоў... Пакінуў родны дом.

А слова боль увесь не змесціць.
Да воч паднесла зноў рукаў:
— Мо хоць старэйшы б быў на месцы,
Ды ля Берліна... голаў склаў...

*

Хацела Вам сказаць я:
«Добры дзень!» —
На вуліцы зялёнай, мітуслівай.
Хацелася мне Вам падаць руку,
А потым, ідучы,
Ўсміхацца сонцу.
Ды нечакана
Павярнулі Вы
Ў другі завулак
Ціха й задуменна.
А потым павярнулася і сонца
І паплыло за Вамі
Ў той жа бок.
Хацела Вам сказаць я:
«Добры дзень!» —
А потым,
Ідучы,
Ўсміхацца сонцу...



Нібы кароткі сон,
Імгненні-невідзімкі.
Адбіткі чуйных дзён —
Часопісныя здымкі.

Настаўнікі,
сябры
Па рыфме і па быту,
Гляджу на ваш абрыс
Трывожны і адкрыты.

Кахае вас жыццё,
А спрэчкі не астылі.
Гульня у пачуццё
Зусім не ў вашым стылі.

Вы кіньце на гуду,
На перасуд і звады.
Праз сум і праз бяду
Да нас прыходзіць радасць.

Няхай у сэрцы боль,
Пакуль пра шчасце трубяць.
Адкрытая любоў
Закрытых слоў не любіць.

Настаўнікі,
сябры
Па слову і па кроку,
Гляджу на ваш абрыс —
Адчайны і высокі.



Яшчэ пранясуцца ў трывозе
Адчай,
        неспакой,
                забыццё...
Як лёгка ступаць па дарозе,
Як цяжка праходзіць жыццё!
Ісці — ні сумненняў, ні жалю
Пад полагам выспелых зор:
За кожнаю новаю даллю —
Такі
Неабжыты
Прастор!
І тая драўляная хата,
За выганам тым палявым,
Заручана
З песняй крылатай
І з імем тваім.



Над крыўдай,
Над няпраўдай,
Над слатой,
Над сцежкаю —
Даўно не палявой...
Над мітуснёй
вялікіх гарадоў,
Над цішынёю скошаных
лугоў —
У нас з табою ёсць яшчэ любоў!

*

Хай будзе ноч яшчэ для нас адна
Між галасоў
І макаў тых пунсовых,
І рэчкі той,
Што высахла да дна,
І песні той,
Што ўжо згубіла словы.
(Хай будзе ноч яшчэ для нас адна!)

Хай прыйдзе ноч для нас адна яшчэ
Тым паўзабытым лугам
Ці папасам.
І ўсёй сям'ёю непагаслых красак
Так таямніча вусны апячэ.
(Хай прыйдзе ноч для нас адна яшчэ!)

Быць можа так, што ўжо ў апошні раз
Пазбавімся тугі і наракання.
Хай сніцца ноч яшчэ адна
для нас —
Ноч доўгага
І яснага світання.

*

Не дакажу, не раскажу,
Не пазаву, не адгукнуся...
Я па-асенняму тужу
І па-вясноваму смяюся.

Збылося што — не мінаваць!
Між намі шлях святла і ценяў.
Нашто, забыўшыся, вяртаць
Кароткі пошум летуценняў?

Нашто захмурваць галаву
І думаць, што яшчэ кахаю...
Але, наіўная, заву!
Але, трывожная, шукаю!



Ты рады? Я не рада.
Як сон, як varажба,
Над кожным лістападам
Плыве мая журба.

Не рады ты? Я рада.
Дарогі замяло...
Над кожным снегападам
Ляціць
        маё
                святло.

Спяю, што не спявана,
І ажыву ізноў.
Над кожным дурнап'янам
Цвіце мая любоў.

Душа жыве душою,
І слова — не спыніць.
Над кожнаю вясною
Маё крыло звініць.



Ізноў зачну я песню
Не з гора,
Не з уцех...
Дарма, што вецер весні
Разнёс твой ранні смех
І што нам разам болей —
Ні поля, ні шашы...
Галоўнае,
Што боль твой
Жыве ў маёй душы.

## ЗМЕСТ

*Адрасы прызнання*

На белорусском языке

Евгения Иосифовна Янищиц

ДЕНЬ ВЕЧЕРНИЙ

Издательство «Мастацкая літаратура» Государственного комитета Совета Министров БССР по делам издательств, полиграфии и книжной торговли. Минск, Советская, 19.

Рэдактар Хв. М. Чэрня. Мастак Т. А. Мельянец. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар Л. М. Вайцяшэня.

АТ 04056. Здадзена ў набор 22/II 1974 г. Падп. да друку 15/VIII 1974 г. Тыраж 5000 экз. Фармат $60\times90^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 2,5. Ул.-выд. арк. 1,9. Зак. 875. Цана 20 кап. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

**Янішчыц Я.**

Я 62 Дзень вечаровы. Вершы. Мн., «Маст. літ.», 1974.

80 с. з іл.

Аснову зборніка склалі лірычныя вершы. Маладая паэтэса шчыра піша аб родных мясцінах, сваёй вёсцы, земляках. Усхвалявана паэтызуе яна тэму кахання і дружбы.

Я $\frac{0743\text{-}150}{М\ 302(05)\text{-}74}$ 68-74 Бел 2